# ГОЛАС
# З ДАЛЁКІХ ДЗЁН ВЯСНЫ

Звыш шасцідзесяці год прамінула з тых дзён, як я пазнаёміўся з вучнем другога ці трэцяга класа рагачоўскай школы Шурам Сінічкіным, якому тады яшчэ ці мала часу трэба было чакаць, каб набыць сваё літаратурнае імя — Алесь Жаўрук. Але і тады ў яго, адзінаццацігадовага хлапчука, пульсавала творчая жылка, адчувалася натуральная цяга да паэтычнага слова. Помню, як я здзівіўся, калі ўпершыню зайшоў да Шуры і ён мне паказаў невялічкі рукапісны часопіс з караценькімі апавяданнямі, вершамі і малюнкамі. Усё гэта напісаў і намаляваў ён сам. Пісаў Шура пра забаўныя выпадкі з сямейнага жыцця, пра сваіх школьных аднакашнікаў.

Ды гэтак складна, радок да радка і ўсё ў рыфму, як у сапраўднага паэта.

Дзяцінства ў Шуры было нялёгкае. Бацькі яго атрымалі ад гарсавета пляц і збіраліся пабудаваць для сям'і дом, каб, нарэшце, развітацца з прыватнай кватэрай, але ў 1922 годзе Шураў бацька, бухгалтар рагачоўскага казначэйства, раптоўна памёр ад тыфу. Маці засталася адна з трыма малымі, а неўзабаве пасля смерці мужа парадзілася і чацвёртае дзіця — трэцяя дачка. І замест пристойнага дома на ўсю сям'ю ўдава на сваю сціплую зарплату акушэркі

здолела паставіць маленечкую хатку, амаль палову якой займала вялізная руская печ. Гэтая печ і карміла, і грэла, і была, асабліва зімой, тым надзейным прытулкам, дзе можна было адпачыць і выспацца.

Хатка стаяла на пагорку, і ранняй вясной, калі яшчэ на дрэвах не было лісця, Шура і я залазілі на гонтавы дах, адкуль віднелася на ўсходзе агромністае разводдзе Дняпра, а на захадзе меншае, але таксама ўражальнае для дзіцячых вачэй — Друці. І мы, тулячыся да коміна, адчувалі сябе такімі слабымі і маленькімі перад гэтымі магутнымі праявамі прыроднай стыхіі. Пазней, у маі, калі зацвіталі сады, а Рагачоў імі славіўся і славіцца, то з нашага назіральнага пункту здавалася, што горад спакваля апускаецца ў беласпенны разліў квецені. Гэта прыдняпроўскае хараство потым адчулася ў шмат якіх радках Жаўрука і нават у самой назве яго лепшай кнігі вершаў «Дняпро выходзіць з берагоў».

Што і казаць, жылося асірацелым Сінічкіным цяжка, але сям'я была дружная, працавітая, а ўдава Елізавета Сцяпанаўна, якая і дагэтуль застаецца для мяне ўзорам мацярынскай самаахвярнасці, рабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб паставіць дзяцей на ногі. А час быў нялёгкі — першыя гады пасля вялікіх апусташальных войнаў — першай сусветнай і грамадзянскай. Але дзеці выраслі і, атрымаўшы добрую адукацыю, сталі сумленнымі працаўнікамі: старэйшая дачка Раіса — бухгалтарам, сярэдняя — Ніна — педагогам, малодшая — Галіна — інжынерам, а сын, па ўзросту другі між дзяцей, да таго ж і паэтам.

Я моцна дружыў з Шурам. З чацвёртага класа мы вучыліся разам, сядзелі на адной парце, і рэдка выпадаў такі дзень, калі ён не заходзіў дамоў да мяне альбо я да яго. На маіх вачах ён паволі набіраў моцы як паэт, спрабуючы свае сілы то ў агульнай школьнай насценгазеце, то ў гумарыстычнай газеце «Смех і слёзы», якую мы з ім выдавалі ўдвух і з дазволу педагагічнага савета вывешвалі ў нашым класе. У 1926 годзе, калі мы ўжо вучыліся ў восьмым класе,

Шура Сінічкін пачаў друкаваць свае вершы ў абласной газеце «Магілёўскі селянін» і бабруйскай акруговай газеце «Камуніст», а пазней і ў літаратурным дадатку да яе «Вясне», стаўшы Алесем Жаўруком, самым вядомым з тагачасных рагачоўскіх паэтаў. Помню гарачыя спрэчкі на сходах вялікага літаратурнага гуртка, што арганізаваўся пры другой рагачоўскай школе. Дарэчы, там я пазнаёміўся з вучнем сёмага класа Юльянам Пшырковым. Выглядаў ён рахманым і ціхім падлеткам, голасу свайго ён ніколі не падаваў, тады нават думаць было немагчыма, што Юльян некалі стане вядомым беларускім літаратуразнаўцам, аўтарам многіх даследаванняў, прафесарам, доктарам філалагічных навук.

За свой кароткі век Жаўрук багата вучыўся і працаваў: скончыў Рагачоўскі педтэхнікум, настаўнічаў на Палессі ў славутым саўгасе «Сосны», паспяхова скончыў вучобу ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, каб займацца ў аспірантуры пры Акадэміі навук БССР, адкуль яго і прызвалі ў армію. Амаль тры гады ён быў ваенным карэспандэнтам. 23 жніўня 1942 года пад Сталінградам, ратуючы параненую супрацоўніцу армейскай газеты, Алесь Жаўрук сам быў паранены.

Раніцай таго ж трагічнага 23 жніўня ён атрымаў ліст ад жонкі з радаснай весткай аб нараджэнні сына і нават паспеў адказаць ёй: «Ну, дзякую табе, вялікі дзякуй табе за сына. Толькі атрымаў твой ліст, перачытаў яго некалькі разоў. Вось радасць якая, што ўсё абышлося добра. Даражэнькая мая, глядзі беражы цяпер сыночка. Ён мне, як і ты, даражэй за ўсіх на свеце, як бы я хацеў зараз быць разам з вамі, расцалаваць вас!..»

Толькі некалькі кніг паспеў выдаць Жаўрук пры жыцці: «Ручаіны» ў 1936 годзе, а праз два гады — «Дняпро выходзіць з берагоў», у сааўтарстве з Андрэем Ушаковым паэмы для дзяцей «Пра майго таварыша» (1939), «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» (1939). Пасмяротна выйшаў у 1950 годзе напісаны разам з А. Ушаковым зборнік дзіцячых вершаў «Пра майго катка», а ў 1960 — невялікая кніж-

ка «Выбранае». Лепшае з таго, што было напісана Жаўруком, і сёння жыве і хвалюе чытачоў.

Паўстае пытанне — як жыве і чым хвалюе? Адказаць на гэта не так лёгка і проста. Асноўныя тэмы паэзіі Жаўрука — дружба, любоў, пафас першых пяцігодак, грамадзянская вайна ў Іспаніі, любасць да бацькоўскага краю, адданасць Радзіме і вера ў нашу перамогу пры нападзе ворага — былі асноўнымі тэмамі і шмат якіх іншых яго паэтаў-сучаснікаў. Але ў першых вершах Жаўрука ёсць тая шчырасць, тая свежасць, той малады, нічым не азмрочаны аптымізм, якія і сёння, нягледзячы на больш чым паўвекавую адлегласць у часе, не даюць радкам паэта прывянуць. Менавіта ў творчасці Жаўрука выразна заявіла пра сябе гэтая адметная рыса тагачаснай паэзіі наогул. Што ж, час быў такі, калі маладосць паэтаў і самой нашай паэзіі супала з маладосцю Краіны Саветаў, калі шмат якія мары і мэты не здаваліся далёкімі і цяжкадасягальнымі. Моцна і арганічна выказаў гэтае адчуванне рускі паэт Мікалай Ушакоў у сваёй першай кнізе вершаў, якая так і называлася «Весна республики». Запомніліся адтуль такія радкі:

Кто смеет говорить о смерти,
Когда в республике — весна!

І ў шмат якіх радках Жаўрука своеасабліва гучыць жыццесцвярджальны матыў. Падаю дзве страфы з яго юнацкага верша, надрукаванага ўпершыню ў бабруйскай «Вясне»:

Можа, з часам завяне бадзёрасць,
І гады лягуць шэрагам плям,
Толькі сёння агністыя зоры
Адзначаюць мой песенны шлях.
. . . . . . . . . . . . . .
І звініць непаўторнасцю чыстай
Ў кожным слове юнацкай страфы
І бароў маладая ўрачыстасць,
І сумётаў чарэшневы пыл.

Гэтая вясновая свежасць і бадзёрасць, гэта глыбінная вера ў будучыню і канчатковую перамогу нашай справы адчувалася і тады, калі паэта трывожыла прадчуванне будучых бітваў і сваёй магчымай пагібелі ад варожай кулі:

Няхай мы спаткаемся
З куляй раптоўнай
У першыя тыдні вясны,
Сябры перамогуць
У бойцы ўсё роўна,
І сына ўзгадуюць яны.

Паэтычнае раскрыццё ўнутранага свету чалавека, глыбіня паэтычнага пранікнення ў сутнасць жыцця, цеплыня і пачуццё — вось, напэўна, тое, што перш за ўсё трэба яшчэ, каб надаць вершаваным радкам большую трываласць і паўнакроўнасць. Як добра гэта адчуваеш, калі чытаеш нізку, на маю думку, лепшых вершаў Жаўрука «Рагачоўскі сшытак». Са шчырым замілаваннем раскрывае ў ім паэт цэльны свет самых запаветных чалавечых пачуццяў: тут і сум расставання з бацькоўскім краем, і любоў да яго і да маці, вобраз якой так кранальна вымалёўваецца ў прачулых радках паэта, дзе гаворыцца пра тое, як матуля выпраўляла сына ў дарогу:

Дырэктыў адказных надавала,
Меркаванняў матчыных сваіх
І ва ўсе кішэні напіхала
Вераснёвых яблык залатых.

Як прыпомню я — у свеце белым,
Родная,
Ні свет і ні зара
Шмат дзянькоў сіберных ты сустрэла,
Гора не зыходзіла з двара.

Што ж, ці прыгадала аб мінулым,
Як даўней збіраўся хлопец твой?
Зноў прыкрыла вочы

І ўсплакнула?
Па прывычцы, кажаш, па старой.

З самым дарагім, што ў свеце маю,
Гэтую гарачую слязу
Я глыбока ў сэрцы захаваю,
Праз усе дарогі пранясу.

Паўтараючы гэтыя радкі, я прыгадваю хатку на Мельнічнай вуліцы і сірочае дзяцінства майго друга. Цяжка было яму, але малады паэт здолеў узняцца над нягодамі ўласнага сіроцтва і ў меру сваіх здольнасцей чыстым і свежым голасам уславіць вясну нашай краіны. А яшчэ ў маёй свядомасці вобраз Жаўрука непарыўна спалучаецца з лёсам мужнага паэта-воіна, які паў пад Сталінградам. Вось, мяркую я, тыя крыніцы, якія жывяць радкі паэта, робячы іх павабнымі і патрэбнымі і сёння.

У 1975 годзе мне давялося пабываць у Валгаградзе. Асабліва запомнілася паездка па Волзе на невялікім цеплаходзе. Мы, удзельнікі ўсесаюзнай нарады работнікаў выдавецтваў, кнігагандлю і пісьменніцкіх арганізацый, праплылі на ім паўз увесь гэты вялікі горад ад пачатку Волга-Дона і да плаціны Волжскай ГЭС. Любуючыся шыракагрудай мірнай ракой і адноўленым горадам, які ўрачыста праплываў перад нашымі вачамі, я раптам успомніў свайго друга. Вось недзе тут, падумаў я, на высокіх прыбярэжных схілах Шуру параніла, і яго асцярожна неслі да Волгі, на баржу, дзе размяшчаўся плывучы шпіталь. А можа, Шура і загінуў якраз тут, дзе зараз плыве наш цеплаходзік? Можа, менавіта тут разбамбілі гітлераўскія лётчыкі плывучы шпіталь і дабілі майго параненага сябра? Што для іх, нелюдзей, чырвоныя крыжы — знакі міласэрнасці і чалавечнасці? І ад гэтых думак і ад жаласных крыкаў чаек, якія неадступна ляцелі ўслед за нашым суднам, мне стала да гаркаты сумна.

Праз некалькі год, прыгадваючы гэту паездку па Волзе, я напісаў невялікі верш «Волжская чайка», прысвечаны Жаўруку. Падаю гэты верш цалкам:

БЫСТРА ЦЕПЛАХОД НА ПРЫВОЛЛЕ НЯСЕ,
ДУША МАЯ ПРОСТРАНІ РАДА.
І ВОСЬ, ЗАСТУПАЮЧЫ ДАЛЬ ПАКРЫСЕ,
КВАРТАЛЫ ЎСТАЮЦЬ ВАЛГАГРАДА.

ЗЯЛЁНАЯ ХВАЛЯ СА СВЕТЛАЙ КАЙМОЙ
ЗА БОРТАМ ГУЛЛІВА ПЛЮСКОЧА.
САМОТНАЯ ЧАЙКА ЛЯЦІЦЬ ЗА КАРМОЙ,
РАЗВІТВАЦЦА З НАМІ НЕ ХОЧА.

І ЯК НОВЫ КАДР НА ШЫРОКІ ЭКРАН,—
КАБ СЭРЦУ ПРАСТОРНЕЙ І ВОКУ,—
НА СІНЬ НЕБАКРАЮ МАМАЕЎ КУРГАН
УЖО НАПЛЫВАЕ ЗДАЛЁКУ.

ПРА БІТВЫ І СТЭП, ВОЛГА, МНЕ РАСКАЖЫ,
ДЗЕ НАШЫ БАЙЦЫ ПАХАВАНЫ.
ТУТ НЕДЗЕ Ў САЛДАЦКАЙ МАГІЛЕ ЛЯЖЫЦЬ
ЗЯМЛЯК МОЙ, ТАВАРЫШ АДДАНЫ.

МЫ РАЗАМ КАЛІСЬ НАД ВЯСНОВЫМ ДНЯПРОМ
ЮНАЦКУЮ ПЕСЦІЛІ ПЕСНЮ.
ЯНА ТРАПЯТКІМ НАС КРАНАЛА КРЫЛОМ,
БЫВАЛА, ПРЫ ЎЗЛЕЦЕ, АЛЕСЮ.

І ЧАЙКА ТРАПЕЧА, ТРЫВОЖНА ТРЫМЦІЦЬ,
НЯМА ЁЙ, КРЫЛАТАЙ, СПАКОЮ.
А МО ГЭТА, ДРУЖА, ЛЯЦІЦЬ І ЛЯЦІЦЬ
ДУША ТВАЯ СЛЕДАМ ЗА МНОЮ?

*АЛЯКСЕЙ ЗАРЫЦКІ*



# ДНЯПРО ВЫХОДЗІЦЬ З БЕРАГОЎ



* * *

Гаварылі, часамі увосень
Завінаюцца сцежкі у сум,
І юнацкія свежыя крозы
Маладую губляюць красу,

І што сэрца у цемрадзі стыне,
І цішэе слоў песенных цок,
Як каханне чарнявай дзяўчыны,
Як сяброўства кудравых хлапцоў.

Толькі я, мо таму, што прысады
Адмаячылі золатам ліп,
Калышу ў сэрцы ціхую радасць
Ў адцвітанні вячэрняй зямлі.

Можа, з часам завяне бадзёрасць
І гады лягуць шэрагам плям,
Толькі сёння агністыя зоры
Адзначаюць мой песенны шлях.

І калі непакорныя ветры
Распляскаюць ў раздоллях свой смех,
Загараюцца вочы прыветней
Надыходзячай белай зіме.

І звініць непаўторнасцю чыстай
Ў кожным слове юнацкай страфы
І бароў маладая ўрачыстасць
І сумётаў чарэшневы пыл.

*1929 г.*

## ЧАРНАМОРСКІ ЗАПЕЎ

Зноўку ўзмах Чарнамор'я у твары нам,
І наш курс на батумскі рэйд,
Дзе грамады стаяць велізарныя
Параходаў з далёкіх марэй.

Ў спрэчках з ветрам ды штормамі бурнымі
Паўз Стамбул, праз туманны Басфор
Прывялі іх суровыя штурманы
У савецкі прыветлівы порт.

Зноўку кранам забрызгацца пенаю,
Хісткім трапам рыпець на ляту,
Покуль грузіцца нафта адменная,
Чарнасліў і батумскі тытун.

І наўсцяж адвячоркамі зыркімі
Нам, салёным ад штормаў і вахт,
Палка братацца з іх бесказыркамі
Ды агнёвыя песні спяваць.

Каб далёка з бунтарскімі остамі
Ў край, дзе глушыць прасторы імгла,
Наша праўда, жывая і простая,
Наша песня да сэрцаў дайшла.

*1932—1934 гг.*

## ПАЧАТАК ДНЯ

Як лепшая песня з тваіх і маіх,
Задумны равеснік мой,
Ў юнацкіх грымотах, у цёплых дажджах
Ідзе малады красавік.

Такіх ты не бачыў яшчэ у жыцці,
Такіх ты, бадай, не сніў,
Як гэтае ранне, што новы дзень
Сабой адчыняе нам.

Каго застае на світанку гудок
У вэрхалах пухкіх сноў,
Таму, як сляпому, не дадзена знаць
Гульні прыгажэйшых фарб.

Той у дзесяць з паловай, працёршы вачэй
Санлівасць, выходзіць на двор,
На сонца высокае шчурыцца ён
І кажа: «Вясна!» Небарак.

Яму ні драздоў на світанні пачуць,
Ні грукату дружных машын,
Ні ў ранішняй стыні на зрубах дамоў
Пярэклічку першых сякер.

А нас без вясны, і світальных гудкоў,
І сонечных ручаін,
А нас без калон, без птушыных сямей,
Бадай, не прыдумаць інакш.

Крамянай прахладаю водарных сноў
Шчэ поўны з начы прасцяг,
А самы задорны і малады
Распахівае гараж.

І дружна на штурмы дрымотных іржышч
Ў такі невыказны час
Крамнёвай чаканкі дванаццаць хлапцоў
Выводзяць дванаццаць машын.

Такі брыгадзір наш, стары франтавік,
Нам кажа: «Глядзі, камсамол,
Вось так на світанні ў сапраўдны бой
Сапраўдныя танкі плывуць».

Ён трактар бярэ,
                    і праходзіць сам,
І хлопцам паказвае клас.
Хлапцы націскаюць, потым глядзяць,
І клас яго на вышыні.

Тады яны зноўку бяруцца не ў жарт,
І сочаць яшчэ пільней,
І кажуць рудому барадачу:
«Да поўдня нам тэрмін дай!»

У ранішніх высях праносіцца спеў
Залівістых жаўрукоў.
І пульхнай паводкай ўстае ралля
За нашай калонай услед.

І пахі бензіну і палыноў
Зліваюцца ў тонкі букет,
І пахі бензіну ў наступны міг
Мацнейшыя за палын.

Сама перамога тым часам ўстае
Прад намі,
                    як ліст прад травой,
І радасць не хоча струменіць цішэй
Вады і ніжэй травы.

Яна, нястрымная, поўніць працяг
Паводкай імклівых хваль,
Бо нас без змагання і без вясны
Ніяк не прыдумаць інакш.

*1934 г.*

## БРЫГАДЗІР

Саўгас. Адвячорак. Яшчэ адзін,
Як скірту, мы вершым дзень.
З палёў на кароткую ноч брыгадзір
Калону сваю вядзе.

Фурманкі плывуць.
Я знаёмы енк
Дарожных жвіроў пазнаю.
І вось запяваюць дзяўчаты мае
Любімую песню маю.

І вось табе маеш, на збегу дарог —
Пасёлак і звон ручаін,
Сталоўка, ў каторай адменны тварог,
Лапша і на рэдкасць чаі.

А потым у клубе трохрадны мажор
Спаткае асобу тваю.
Глядзі, у спаборніцтва на прыгажосць
Шчаслівыя пары ўстаюць.

Глядзі, забірае часцей гарманіст,
І хлопцы бяруцца не горш,

І вось праз хвіліну
выдатных спадніц
Палошча квяцісты віхор.

Скажы,
што паветра, як звон, не гудзіць,
Што кругам не йдзе пакой,
Пабач, на сярэдзіну сам брыгадзір
Праходзіць шырокай хадой.

Ён шапку скідае, руды барадач,
Ён ў скокі пайшоў не на жарт.
І вось прэміровачным ботам як дасць —
Ажно палавіцы дрыжаць.

І вось, падміргнуўшы музыкам: «Жывей!» —
Ён ў пару выводзіць сабе
Ударніцу і весялуху
на ўвесь
Калінінскі сельскі Савет.

І тут, як усюды, ён ставіць рэкорд,
Ударнік — ні даць ні ўзяць.
На гэту чачотку зайздросна вакол
Чубатыя хлопцы глядзяць.

І сочаць дзяўчаты. Іх сэрцы трымцяць,
І жоўтая смага ў вачах:
З такім мастаком пад гармонік прайсці —
Пашана любой з дзяўчат.
Нат зоры і тыя здаюць вышыню —
Ім, зорам, там нудна млець,
І вось яны важацца ў вокны зірнуць
І радасць людзей зразумець.

*1934 г.*

## ПРА ТАВАРЫША

**(Апавяданне слесара)**

На Палессі ёсць ў мяне таварыш.
Зараз — некалі,
а буду вольны — ну,
Да яго на тыдзень так, на пару
Я абавязкова загляну.

Ён ніякіх, праўда, надзвычайных
І сусветных скрозь не ладзіў дзіў,
У бойках — аддзялённы мой начальнік,
А цяпер — калгасны брыгадзір.

На Палессі крыжанак мільёны,
І хоць Тураў немалы раён,
Толькі так ніхто ва ўсім раёне
Не мастак на дзіч хадзіць, як ён.

У яго падлогі мыюць чыста,
У дзежцы квас кляновы,
і як след
Грамата наводзіць урачыстасць,
І пры ёй будзёнаўскі партрэт.

І калі аднойчы ў росны вечар
З-за ялін мільгне мой самакат,
На высокі ганак насустрэчу
Выйдзе ён з дачкою на руках.

А назаўтра павядзе ў палеткі,
Граблі дасць, як ўсім, і норму дасць,
Будзе скрозь вучыць мяне
на рэдкасць
Звонкія пярэбіркі складаць.

Будуць травы пахамі струменіць
Так, што захмялее галава,
Будуць жарты весялух адменных
Старыкоўскі лагер хваляваць.

І калі мы вечарам,
на славу
Коп нагрэбшы, вернемся ў сяло,
Нас пасадзяць на шырокіх лавах
За дубовым вымытым сталом.

Гаспадыня скварак нам насмажа
І даставіць з клеці малака.
Стану рэзаць хлеб я і заўважу
Дымку ад загару на руках.

Там, далей, глядзіш, яшчэ прычаліць
Пакурыць, пагутарыць да нас
Наш руды спявак-аднапалчанін —
Цэлага савета старшыня.

Мы цыгаркі скруцім.
Будуць далі
Моўчкі ткаць вячэрняе радно.
Камандзіраў слаўных прыгадаем,
Добрых коней ўспомнім заадно.

Праплывуць, знаёмыя да болю,
Ў памяці Растоў,
Бабруйск,
Чыта...

А нядрэнна б так і нам з табою
На Палессе заглянуць, чытач.

*1934 г.*

## САДЫ

Небывалая дагэтуль,
Нечуваная підзе
Над Рачэнскім сельсаветам
Поўнач зорная ідзе.

І выходзіць к травам ніцым
Праз лябёды і званец
Закаханы ў бліскавіцы
Масці светлае хлапец.

Ён праходзіць паўз фурманкі
Ў край сялібы,
Ў ночны дым,
Дзе за трактарнай стаянкай
Спяць арцельныя сады;

Дзе вартуе свет зялёны
Ад зайздрослівых вачэй
Дзед з унучкаю Алёнай
Сярод дзён,
Сярод начэй.

Толькі дзеду, мабыць, вечар
Выпрастаў сухія плечы,
І, адтупаўшы як след,
Прыкурнуў мо ў будцы дзед.

І хлапец ідзе па росах
Да каханай
сам не свой
Паўз атаву,
Паўз пакосы,

Праз пляцень густой травой.
Яблык водарная россып

Праплывае над бялёсай
Акуратнай галавой.

Дзед вядзе героя к будцы,
К бэрам,
К дзеўчыне,
К агню.
Покуль дыму кольцы ўюцца
І казычуць скваркі нюх,
Гучна ўтрох яны смяюцца
Ў маладую цішыню.

Дзед пытаецца пра косы,
Пра жняяркі,
і герой:
— Лепш не трэба,—
кажа,— косы.
І сяброўкі змеі-косы
Моўчкі пестуе рукой.

І тады каханкаў дзед наш
Зноў бярэ у абарот:
З інструктажам адпаведным
Накіроўвае ў абход.

Самакрутку прыпаліўшы,
Дзед махае ім рукой.
І ідуць яны па цішы
Першаякаснай травой.

Пад вясёлае мігценне
Зор, надзіва маладых,
Непаўторныя імгненні
Паўтараюцца для іх.

Яблык лепшыя гатункі,
Як на выстаўцы, вісяць.

Далятаюць пацалункі,
А гаворкі не чуваць.

І рукой махнуўшы: —
Дзе там!
Адыходзіць ў будку дзед.

Расцвітаюць двойчы кветы.
Нечуванаяідзе
Над Рачэнскім сельсаветам
Поўнач зорная ідзе.

*1934 г.*

## СВАТЫ

Ясянёвае палоззе,
Звоны рвуцца з-пад дугі.
За аборай
Па дарозе —
Нечапаныя снягі.

Ты выводзь-ка, дзед, за свіран
Жарабка — на ўвесь раён,
Мы Арцёма-брыгадзіра
Сёння ў сваты павязём.

Возьмем трухам
Ці галопам,
Новай грэбляй, праз масты —
Праімчымся, прыгалопім
Да семнаццатай вярсты.

Нас пасадзяць, чынна, спраўна,
Сабярэцца ўся радня,
Прыйдзе з жонкаю настаўнік
І арцельны старшыня.

І нявеста наша, Ліпа,
Трохі ўзняўшы стрэлкі броў,
Пройдзе ў туфлях з моцным рыпам
Да сябровак, да сяброў.

Ейны тата папытае,
Як ў арцелі праца йдзе,
Колькі збожжа прыпадае
Жаніху на працадзень.

Возьме слова цётка Вуля,
Скажа:
«Глупства, што руды!»
Пяцярых сыноў пасуліць
На бліжэйшыя гады.

Будзе горача нявесце,
Хоць такіх на жарт не ўзяць,
Хто ў пракосах першы
грэсці,
На гулянках — запяваць.

Гарманіст,
Ты хлопец лоўкі,
Толькі меха не шкадуй.
Як з нявесцінай сяброўкай
Я ўпрысядкі пайду.

Як ніколі, дагадзі нам,
Каб у баб
І у дзядоў

З гакам ў семдзесят гадоў
Самі ногі захадзілі
Ад залівістых ладоў.

Недарма ж у свет шугае
Слава гучная пра нас,
Як працуе,
Як гуляе
«Варашылавец»-калгас.

*1934 г.*

## ЛІСТ СЯБРУ

Зноў трывожна гудуць ясакары,
Звар'яцеўшы у гэтую ноч.
Невысокім самумам Сахары
Ў шыбы суха шарахнуўся норд.

А ў мяне над халоднай вячэрай,
Над самотай задуманых строф
Першатворны канчаецца чэрвень
І праходзіць радкамі пяро...

Можа, гэта з рамантыкай школьнай,
Можа, сёння вiншуюць не так,
Толькі ў просты анапест, Коля,
Па-другому не ўкласці ліста.

Ты гаворыш: «Злавацца мароз пачаў...»
Ну, а я, праз кіламетры вей,
Бачу: думы з маленечкай роспаччу
Захадзілі ў тваёй галаве.

А забыў,
як насілі патроны
Пры паляках бацькам у лес,
А забыў,
як вадзілі калоны
Варашылаўскай МТС?

Вартавалі задумныя далі,
Падглядалі павадкі вады,
І задорныя вершы складалі
Пра свае маладыя гады.

Памятаеш, казаў: «На лапаткі
Кінем спробы варожыя змор!»
Дзе ж падзелася Вашая хватка,
Брыгадзір і нядрэнны камсорг...

Як страшэнна равуць ясакары,
Звар'яцеўшы у гэтую ноч.
Небывалым самумам Сахары
Ў шыбы грозна шарахнуўся норд.

Ноч рыхтуе пагрозы ў зыбі нам.
Зараз, хлопец, пакліча наш сцяг
З колісь выверaным карабінам
Кошт давесці ўчарашніх прысяг.

Ўстаць сцяной за Радзіму-маці,
Каб іх зграі —
у порах, у дым.
Што ж адкажа Мікола Лапацін,
Як ён гляне у вочы тады?

Вось таму над халоднай вячэрай,
Над самотай задуманых строф,
Калі мірны канчаецца чэрвень
І героікай дзён б'е пяро.

Калі нам салаўіную ўдачу
Маладая прарочыць вясна —
Не схіляцца у зморы і плачы
Над асушанай шклянкай віна.

Гэта — не,
не з рамантыкай школьнай,
І віншуем мы толькі так,
І іначай ніколі, Коля,
Я не думаў пісаць ліста.

Я канчаю.
Хай замеці дзесьці
Зноў галосяць ў загібах прысад.
Памятай: сябры плацяць па чэсці
За прадажнасць высокіх прысяг.

*1930—1934 гг.*

## ЧАПАЕЎ

Ты забыўся тады,
гэта вечар ці ранак,
За сцяною фае
ці разводдзе станіц.
Ён, як вецер, шугаў
бездарожжам экрана,
Твой адважны Чапай
на стаепным кані.
І палаў камісар.
І цудоўнай начынкай

Разрывалі гарматы
паветра ўгары,
І апошняю лентай кулямётнай
дзяўчына
Белякам перабблытала
ўсе казыры.
Толькі хмары цяжкія
збіраліся нанач,
Покуль песня вяла
Іртышом-ракой,
Покуль хлопцам падцягваў
сам Васілій Іваныч
І махаў
не параненай шчэ рукой.
А пасля цішыня,
а за ёй афіцэры.
І не сніцца хлапцам
гэты морак ніяк...
Тут руку мне сціскае
Навасёлава Вера,
Выпускніца літфака
і суседка мая.
А другі мой сусед,
год за сорак слесар,
У мінулым —
чубаты будзёнавец-зух,
Дай сядло яму зараз
замест мірнага крэсла —
Слесар выкіне шашку,
слесар вытра слязу.
Вось мы выйдзем з кіно,
свой забыўшы завулак,
І супынак трамваяў,
і нумар кватэр.
Гэты дзядзя
з зайздросным такім мінулым

З намі плошчу міне,
    з намі пройдзе у сквер.
Ён раскажа пра ўсё,
    што на сэрцы паўстала,
Пра шырокія стэпы,
    пра цікавых людзей...
Толькі бачыш ты,
    Анка на кані вырастае,
І спадзёўны Елань
    нашу помсту вядзе.
Я надоўга запомніў
    гэты радасны пошчак,
Калі крочаць калоны,
    і не злічыш калон,
Калі танкі праходзяць
    Чырвонаю плошчай
І плывуць самалёты
    над мудрым Крамлём.
Калі шостая частка
    перамогу трубіць,
І грыміць яе слава
    на ўсе на шэсць,
І ў пасольскіх ложах
    кусаюць губы
Неўзаметку
    разумныя аташэ.
Хай адважацца толькі
    паны-інтэрвенты —
Ўстанем ўсе, як адзін,
    на прызыўны кліч:
Я і сябры мае,
    слесары і студэнты,
Патрыёты
    вялікай савецкай зямлі.
А пакуль што бульвар...
    Мы сядзім і гаворым,

I над намі
 адносна спакойная высь.
I ўстаюць карпусы,
 і спяваюць матэры,
I ніколі не спіць
 на мяжы вартавы.
I ў думках спачатку
 ўсё ізноў карагодзіць,
I абветраны дзень
 прад табою ўстае:
На мастку чалавек,
 і другі падыходзіць,
I другі кажа: «Фурманаў»,—
 і руку падае.

*1935 г.*

## САНАТОРНАЯ НОЧ

Яна адчыняе нам, ноч санаторная,
Сваю біяграфію ў поўнай красе.
Як толькі атрамант нахлыне на ўзгор'і
Ад самага Каспія да Туапсе.

Прасторны пакой, дзе стандартныя ложкі
Ў два шэрагі сталі, вартуючы ціш,
Яшчэ паўгадзіны, гадзіну, можа,
Ты стрыманым гутарам ў ноч шалясціш.

Каб потым ўжо болей спачын не
 транжырыць,
Каб ціша ўдавою блукала ўначы,

Каб зоры над самаю столлю кружылі
І слаліся вэльмы ў раёнах лагчын.

Так людзі у ложках налева, направа —
Героямі ў фільмах уласных сноў.
І зноўку падлога скупой пераправай
Ўстае паміж мной і чацвёртай сцяной.

І толькі сусед мой, луганскі шахцёр ён,
Не трапіць на сон, не пазбавіцца дум,
Тых самых, што, нібы паўднёвыя зоры,
Як хмелем, як брагаю, голаў вядуць.

Ён шэпча: «Браценік, калісьці праз нетры
Два дні мы ішлі без прывалаў сюды,
Ўвесь трэці мы секліся, а на чацвёрты
Ад бацькі Шкуро — толькі пыл ды дым.

Мы коней паілі ў вытоках нарзанаў,
Мы доўга лічылі, ці ўсе сябры.
І змрокі цяжкія за горы спаўзалі,
І хлеб нам выносілі жыхары.

Адшасталі войны — не горшыя зноўку
Знайшліся турботы для хлопцаў такіх.
І вось мы паставілі ў козлы вінтоўкі
І ўзялі адбойныя малаткі.

А што ж гэта зараз, я думаў:
газоны,
Нарзаны, курзалы і від на Эльбрус,
А там, можа, гэтых, даволі мазольных,
Братве не хапае у шахце рук [...]

Скажу табе, выпадак вельмі нязначны.
Я ноччу хацеў бы заснуць, і не мог.

І толькі сягоння катэгарычна
Сказаў сабе: «Лёксін, астынь, браток.

Наладзіш машыну і потым з горных
Цудоўных расселін — катай на Данбас!»
І вось за гарачку мне дужа горна,
І вымушан быў я звярнуцца да Вас.

І я Вам кажу, мы яшчэ, брат, трошку
Паходзім ў забоях, паб'ём абушком!..»
Тут поўны грузін,
                наш сусед па ложку,
Спрасоння кляне нас, што спаць не даём.

Адважны ваяка залазіць пад простыню,
Ён даць абяцае Сандро спакой.
Святло выключаецца, і праростае
Каўказскае неба ў маштабах акон.

*1935 г.*

## ПУШКІН

За плячыма колаў гоман,
Вы мінаеце вакзал.
— Ну, лічыце, мы ўжо дома! —
Спадарожнік Вам сказаў.

З Вамі рэчы, з Вамі справы,
З Вамі хатнія ключы.
Да патрэбнае заставы
Вас машына даімчыць.

Вы сядаеце.

— Націснем,—
Кажа шофер,— на педаль!
Выпярэджаны рамізнік
Адстае і нікне ўдаль.

Толькі шасне напаследак
Звон залівістых шамкоў.
Хто Вам скажа, можа, гэта —
Пушкін з даўнім ямшчыком.

На хвіліну пад разводдзе
Завірух, пад сцежак бель
Ў дзевятнаццатым стагоддзі
Вы адчуеце сябе.

І тады у цемры ночы
Над Міхайлаўскім сялом
Праляціць:
«Нет, барин, мочи,
Коням, барин, тяжело».

Лепіць вея, слепіць вея.
Бубны б'юць.

Плыве сенат.
З петлі выпаўшы, Рылееў
Двойчы вымушан скапаць.

І наперакор сатрапам
Царскім

ў морак рудніка
Мужна праўнука арапаў
Песню кідае рука.

Ен з анналы на «спачынак»
Скача; стомлен, але горд.

А за Дантэса плячыма —
Мікалай і Бенкендорф...

Коні косяць ўбок вачамі.
Стрэл і кроў.
                    І дух звяло —
Біяграфіі надзвычайных
«Неабходны» эпілог...

І ізноў каціцца шынам,
Веям выць і прычытаць,
Толькі раптам —
                    стоп машына,
Вы прыехалі, чытач.

Нікне ўраз лятункаў строма,
Вы ў сучаснасці ізноў,
Вы праходзіце знаёмай
Белай плошчай паўз кіно.

Перад Вамі лепшы горад
Ў цвеце сённяшняй красы,
Ў шэсць паверхаў ўсталі горда
Перад Вамі карпусы.

І насустрач, праз сутонне,
Зноўку Пушкін.
                    Ён жыве.
Ён прайшоў у наша сёння,
Гэты дзіўны чалавек.

*1935 г.*

## ДНЯПРО

Глыбіні жывое люстра
Ўсхвалявала зыб вятроў
Я іду табе насустрач,
Партызан стары — Дняпро.

Па нізінах, між узгор'яў
Ты у колішняй красе
Да ўзбярэжжаў Чарнамор'я
Хвалі гордыя нясеш.

І ізноў, знаёмых сцежак
Грунт адчуўшы наяву,
Я іду тваім ўзбярэжжам,
Шырынёй тваёй плыву.

Недарэмна мы, бывала,
Поруч крочылі у бой.
Глянь, праходзяць караваны
Самалётаў над табой.

Глянь, у сонечных налівах
Камунальныя сады,
Глянь, рэспублікі шчаслівай
Ў шэраг сталі гарады.

Покуль травам ўвысь выростаць,
Покуль ветрам ніць прасцяг,
Ў гонар нашага сяброўства
І шчаслівага жыцця.

Не спыняючы спаконны
Пэўны бег сваёй вады,
Раскажы мне, неспакойны,
Пра мінулыя гады.



З бацькамі і сястрой Раісай.
1912 г.



Са школьным сябрам Лёшам Зарыцкім.
1924 г.

Як, у бойку з чорнай ноччу
Ідучы за нашы дні,
Пакідаў завод рабочы
І палоскі селянін.

Як хісталі хвалі човен,
Як з балот чадзіў туман,
Як ў трывожным Рагачове
Камісарыў Цымерман.

Як вадой тваёй сцюдзёнай,
Адыходзячы ў бai,
З ардзінарцамі Будзённы
Добрых коней напаіў.

Я з павагай шапку скіну,
Буду слухаць і маўчаць,
А як толькі над краінай
Трубы меддзю загучаць —

Супроць хмараў дымна-шэрых,
За радзіму,
                за вясну
Зноўку станем мы у шэраг
Старынoю трасануць...

Хто казаў, што кроў — не лава.
Хай выходзіць, хто казаў.
Мы з табой яшчэ на славу
Паваюем, партызан.

*1935 г.*



Сонца праплывае краем бору.
Я з падвор'ем сёнячы ў ладу.
Я ізноў сцяжынкай пад узгорак
За млыны вясёлыя іду.

Толькі там, дзе паляўнічай хаты
Зруб
        і неагароджаны гарод,
Мне насустрач з Мурагоў дзяўчаты —
Цэлы, не жартую, карагод.

Я кажу: «Здаровенька арцелі!
Я ж вас мо, дзяўчаткі, не забыў,
Толькі як вы, любыя, паспелі
Ўсе мае пазабіраць грыбы?

Пад выдатным нашым небакраем
Дзіўныя на рэдкасць вечары,
Мы яшчэ на славу пагуляем —
Без мяне не ладзьце ж вечарын».

А яны: «Мы лесам скрозь блукалі,
А чужых не бралі мы грыбоў».
А яны: «Мы шмат каго спаткалі,
А такіх не бачылі дзядзькоў.

Гэткі ты — здалёку, не іначай».
А пасля адна з іх:
                                «Паглядзі,
Гэта ж той мо, леташні дакладчык,
З Соспава, з саўгаса, брыгадзір».

Я смяюся: «Мабыць, гэты самы,
Толькі пагрубеў мо ад вятроў.

Не работа, кажучы між намі,
Гэтак хутка забываць сяброў».

Толькі мне ў адказ адна сястрыца
Разам за сябе і за другіх:
«Каб ніколі зроду не сварыцца,
Ты прыходзь-ка госцем ў Мурагі.

Там у нас садоў, бадай, без ліку,
Ўсе крыніцы поўныя вады.
Там у нас выдатныя музыкі,
Як зайграюць —ў скок ідуць дзяды...»

Строі хвой шапочуць лісцем згодна.
Я з прыродай сёнячы ў ладу.
Я далей мясцінаю лагоднай
Без сцяжын пратоптаных іду.

Ціхія самотныя блуканні.
Як пра вас у словах расказаць?..
Меркаваў прыйсці з баравікамі —
А хаця б лісічак назбіраць.

*1935 г.*

## ПЕРШАЯ ПЕСНЯ ПРА СЯБРОЎСТВА

Над Дзявічкай сёння вэльмы
Тумаоў і іншых дзіў,
Над Дзявічкай сёння вельмі
Натуральны маладзік.

І, як летась, да паловы
Мая зацвітае бэз.
Выйдзі, Таня Каралёва,
Гэта песня пра цябе.

Хай адценні акварэлі
Цяжка ўліць ў памер радка
(Ў Траццякоўскай галерэі
Я такіх не сустракаў).

Ўсё адно,
для песні з густам
Строф заўю карункі я,
Толькі шасне мне насустрач
Кофта белая твая.

Паглядзі на гмахі плошчаў,
На людзей і на сады —
Ён не змоўкне, дзіўны пошчак
Гэтых вёсен маладых.

Гэта ж мы з вышыняў хмурных
З парашутамі плылі,
На парадзе фізкультурным
Ў першых шэрагах ішлі.

Гэта ж нашая з табою
Ў кветках маладосць плыве
Над Масквою,
пад Масквою
І па самай па Маскве.

З намі дрэваў карагоды
І лагодныя вятры.
Пра каханне ў нашы годы
Фрыдрых Энгельс гаварыў.

Не падмыла каб на ростань
Ні вада
          і ні бяда —
На высокае сяброўства
Рукі белыя падай.

І няхай спрабуюць ганіць —
Я адказваць буду сам,
Што такую,
               дарагая,
Сёння песню напісаў.

*1935 г.*

* * *

За акном карункі сцежак
Ды сініц вясёлы крык,
За акном вартуе снежань
Падмаскоўныя двары.

І ўжо леглі на загоны,
Леглі ў пояс на лугі
Маладыя, з лёгкім звонам,
Раніцовыя сцягі.

Значыць, што ж, выходзіць, зноўку
Нам выдатны лыжны рэйд.
Даставай, мая сяброўка,
З шафы світэр і берэт.

І пакрочылі снягамі
Між узгоркаў ды лагчын,

Так, каб старт з двума сцяжкамі
Ірвануўся ўдалячынь.

Толькі ветры з пылам стынным
Будуць гойдаць над усім,
Толькі вербы пілавінне
Будуць з голля церусіць.

Дзесьці, дружа, перад намі
Ў строях беленых калон,
Ў сініх літарах «Дынама»
Інстытуцкі стадыён.

Пазіраючы удалеч,
Чалавек прайшоў на снег.
На гадзіннік паглядае
Неспакойны чалавек.

Дык хутчэй жа ўперад дзіўным
Дыванам у добры час,
Каб інструктарскі гадзіннік
Быў па-даўняму за нас;

Каб спявала, каб не моўкла
Маладосць адменных лыж,
Каб фабрычныя пасёлкі
Караблямі праплылі.

Недарма ўжо на загоны
За ноч леглі й на лугі
Маладыя, з лёгкім звонам,
Непарушныя снягі.

Ды крыклівыя сініцы
Скокі ладзяць на двары.
Даставай жа рукавіцы,
Цёплы світэр і берэт.

*1935 г.*

## РЭНГЛОТ

Ў тых самых шырынях, дзе сцежкі ляглі
На Арджанікідзе,
Маздок
і Тыфліс,
Дзе сквапнай Куры ненасытлівы гул —
У дымных мускатах знаёмы аул.

За саклі,
за грады
па першай траве
З чупрынаю русай ідзе чалавек.
Глядзіць ён сюды,
і глядзіць ён туды —
Направа сады,
і налева сады.

Ён крочыць да брамы, дзе песня звініць,—
За брамай пад сонцам дзяўчына стаіць
І кошык з рэнглотамі і айвой
Трымае высока над галавой.

І хлопец крычыць ёй, удалы сакол:
— Прыгожая Бэла, зірні навакол:
Высокае сонца на поўдні стаіць,
Арцельшчыцы крочаць ў цянёк адпачыць,
Вытокі крыніц перасохлі да дна,
Як пальма,
пад сонцам стаіш ты адна.
Дык выйдзі ж за браму, за порaслі туй,
Паўночнага госця айвой пачастуй.

І вось брыгадзірша прыносіць у цень
Зайздросны рэнглот, ад усіх залацей.
Дае яго хлопцу і кажа яна:
— Прымай падарунак, вясёлы юнак.

А хлопец ёй кажа пра тое віно,
Што сэрца не ў жарты хвалюе даўно,—
Пра смаглыя вусны,
пра зоры вачэй,
Якія ён сніць у трывозе начэй.

Дзяўчына смяецца й руку падае:
— Хлапец, мне па густу размовы твае.
Чаму не бываць —
таму не бываць,
А кветкам цвісці,
а нам сябраваць.

Чакай, толькі змрокі ахутаюць сад,
І прыйдзе жаніх мой, удалы Азат.
Мы пойдзем за саклі сцяжынкай удоўж
Да зграбных дзяўчат,
да вясёлых хлапцоў.

Любімыя песні мы будзем спяваць,
У лепшыя гульні да ночы гуляць
І ў гонар сяброўства навучым пасля
Шаноўнага госця скакаць «шаміля».

Прарослі к зямлі, анямелі кусты,
Ў руках у хлапца рэнглот залаты.
Кустам не пайсці па зямлі неўзнарок,
Рэнглоту хлапцоў больш не радаваць зрок.

Таварыш, сябры мы сягоння, бадай:
Абодвум нам сёння з каханнем бяда.

*1935 г.*

# ДРУГАЯ ПЕСНЯ ПРА СЯБРОЎСТВА

На любым тваім бульвары
Ноч багатая стаіць.
На Садовай планетарый
Пад сапраўдным небам спіць,

Па якім ужо сплываюць
Кволыя абрыўкі хмар.
Прадапошнія трамваі
Накіроўваюцца ў парк.

І ў маленечкай кравáтцы
Ўвесь ў абдымках белізны
Спіць наш сын.
                Якія сняцца
Хлопчыку такому сны?
Можа, страус з заапарка,
Можа, лёгкі стратастат.
Прытуліся бліжай.

                        Арка
Зор аздобіла наш сад.
Гэтым часам мне здаецца,
Назаўсёды мы сябры.
Аніякія у свеце
Не разлучаць нас вятры.

І як нават па дарогах
Загарацца агані,
І пратрубіць нам трывогу
І паходную гарніст —

Мы падцягнем гімнасцёркі,
Выраўняем ўраз штыкі,

Возьмем новыя ў капцёрках
І начысцім кацялкі.

І не спыняць ні касыя
Нас,
ні простыя дажджы.
Загадаем цешчы сына,
Быццам вока, берагчы.

І пакрочым трактам поруч,
Жонка любая, з табой
Паўз вясеннія азёры
Скрозь з атручанай вадой.

Нежывымі будуць зоры
Падаць ў брудную траву,
І пад хмарамі ў дазоры
Аддзяленні праплывуць.

Мо тады у завірусе
Нас разлучаць ў два бакі,
І пад куляй я схілюся
На сыпучыя пяскі.

А цябе, на тое ліха,
Па траве ды па вадзе
Каляін неразбярыха
Ўноч кругамі павядзе.

І калі ты выпадкова
Пад здзічэлы плач асін
Раненаму аддзялкому
Пляшку лёгкую дасі,—
Я цябе пазнаю, квета,
Ноччу гэтак, як і днём,
Па картавінцы прыметнай,
Па радзімцы над брывом.

Адглыну вады, і далей
Пойдзем з іншымі ізноў
За квітнеючыя далі,
Бацькаўшчыну і сыноў.

І сяброўства, як прысягу,
Як штандар свайго палка,
Пранясём высока шляхам
На абветраных руках.

*1935 г.*

## ГАСПАДАР

Вецер знік. Цішыня.
Ад машынных стаянак
Цягне нафтай,
І мятаю цягне з нізін.
Спіць саўгас.
На высокі з парэнчамі ганак
Гэтым часам дырэктар
Выходзіць адзін.

Заўтра хлопцы
Яго нegrамоздкія рэчы
На машыну складуць
І пацісдуць руку:
— Што ж, Мікіта Пятровіч,
Да новай сустрэчы.
— Што ж,— адкажа ён хлопцам,—
Да новай. Пакуль.

Так бывала заўжды.
Так было і ў Казані,

І калісьці пад Слуцкам,
І потым тады,
Як у Мінск яго выклікалі
І сказалі:
— Справа гэткага роду,
Таварыш Руды.

Ты ў часы грамадзянскай
Палессем павінен
Быў праходзіць не раз,
Горкай долі бядняцкае сын,
Ты яшчэ не забыў мо
Іржу багавіння
Ды галечу
Крывых паляшуцкіх хацін.

Не глядзі, што заўжды
Там не шэнціла зерню.
На руку,
Ды давай чамаданы складаць.
Хай не змог Архімед —
Бальшавік пераверне
І прымусіць зямлю
Свае скарбы аддаць.

Ён тады адказаў
(Бо такога не ведаў):
— Мы адолелі скруху
Ў жыцці не адну.
Мабыць, апартуніст
Гэты ваш Архімед быў,
Ну, а мы паспрабуем
Інакш павярнуць...

Так прыйшоў ён сюды
Ціхім часам вячэрнім,

Каб зямлі гэтай сілу
Ад сну абудзіць.
Ён масты абыходзіць,
Аборы, майстэрні
І ля кожнага дома
Падоўгу стаіць.

Ціша. Спяць ужо скрозь
Палявыя абшары...
І стаіць ён — не зводзіць
З пасёлка вачэй:
Тут у кожным бярне
Яго лепшыя мары
І бяссонніца
Доўгіх зімовых начэй.

Вецер не варухнецца
Ў вяршалінах волкіх.
Цішыня. Толькі сон
Не ляціць да павек.
І, бадай, давідна
Ён блукае пасёлкам,
Гэты просты,
Як шчасце яго, чалавек.

*1936 г.*

## ДРУЖБА

Як заўжды, у восем дваццаць
На пероне ажыўленне:
Скоры «Ленінград — Адэса»
Адбывае. Паглядзі,

Ён адразу набірае
Шпаркасць.
Ён не чуе ўздыхаў
Праважатых, што махаюць
Доўга хустачкамі ўслед.

Прамінуўшы мост
і дачы
З пеўнямі і гамакамі,
Ён імчыцца у зялёны
Поўны шолахаў прасцяг.

І якраз у гэты момант
У вагоне «для курящих»
Некурашчы архітэктар
Хоча адчыніць акно.

А яно —
ні ўзад ні ўперад.
Пасажыр нервуе вельмі.
«Крокодил» убок адклаўшы,
Спадарожніца тады
Кажа:
— Кіньце, меней пылу
Нацярусіць! Вы далёка?
А яму не да гаворкі,
Нешта ён бурчыць ў адказ,

І залазіць на паліцу,
І глядзіць ў акно праз шыбу —
Белыя і залатыя
За акном плывуць палі.

Архітэктар марыць: хутка
На блакітным узбярэжжы
Пабудую санаторыі,
Светлы, горды, як палац.

Каб увесь са шкла стаяў ён
Паміж гор
сярод магнолій
Пад цудоўным небам поўдня,
А пад ім шумеў прыбой.

І ад самага прыбою
Каб вяла да вестыбюля
Мармуровых белых сходак
Чарада.
У добры час
Пройдуць там з прыгожай яхты
З чамаданамі мужчыны,
І жанчыны ў сарафанах
Пройдуць з дзецьмі ўпершыню.

Ён смяецца. Толькі потым
Пахмурнее: нечакана
Ён перон успомніў шумны,
Развітанні, кветкі, смех.

Зноў хусцінкі праважатых,
Быццам чайкі, трапяталі,
Зноў любімае хусцінкі
Паміж імі не было.

Ён кусае моцна губы,
Ён у мяне цыгарку просіць.
Санаторый выйдзе светлым,
Ўсё па плану...
Толькі што ж

З твару ён сагнаць не можа
Новай зморшчынкі?
Атрутай
Бракне кроў,

Яму — Атэла
Нашых дзён — куды цяжэй!

Бо, згубіўшы дружбу, цяжка
Чалавеку ў адзіноце,
Хоць народам да адказу
Перапоўнена купэ...

Дарагая,
З полкі верхняй
Я сачыў за ім упарта.
Спадарожнікі драмалі,
За акном стаяла ноч.
І здалося мне: як птушка
Без паветра,
як расліна
Без вады,
без дружбы шчасна
Жыць не можа чалавек.

Цёплая, яна патрэбна,
Каб радзіла ў полі жыта,
Каб ударней здабываўся
Чорны камень — антрацыт,

Каб мячы ганяць азартней,
Каб на смерць ісці рашучай,
Каб бялок ў тваіх прабірках
З нежывога узнікаў,

Каб радкі маёй паэмы
Гарт адменны набывалі
З кожным днём
і ўрэшце мужна
Загучалі, як метал.

*1936 г.*



Алесь Жаўрук (першы справа)
і Міхась Скрыпка (другі злева) з аднакурснікамі,
студэнтамі Рагачоўскага педтэхнікума. 1928 г.



З літгурткоўцамі. 1929 г.



Алесь Жаўрук. 1932 г.

## НОЧ

Над травой,
Над вогкім вербалозам,
Над пясчанай выдмаю гусінай,
Над маўклівымі барадачамі,
Што старанна ладзяць нераты,
О, знаёмы з ранняга маленства
Пах кастроў начных і свежай рыбы,
Я цябе здалёку без памылкі
Пазнаю, як матчыну страху!

На дымок кастра іду асокай
Да рыбалак. Словы прывітання.
— Чалавека трэба перавезці,—
Узнімае вочы барадач
На хлапца. Ён трэці. Ён падмайстра
У старых, каторыя дазвання
Ведаюць малой і буйнай рыбы
Норавы і хітрыя паводкі.

Босы, з падкасанаю штанінай,
З русым чубам, стромкі і шчарбаты,
Прада мной тады ўстае прыгожы
Хлопец. Ён амаль равеснік мне.

Напляваўшы спакваля на рукі,
Ён бярэ вясло.
І праз хвіліну
                    човен лёгка рассякае хвалі,
Пругкія, як гэта ноч сама.

Мы даўно ўжо адзін другога
Прыгадалі, я і перавозчык:
Два гады назад ці два з паловай
Прыязджаў я ў гэты край,

І мы
        з ім тады папрацавалі добра...
Толькі, памятаю, ў іхняй школе
Стройная такая, з залатымі
Косамі настаўніца была.

І, нібы два сонцы там свяцілі,
Як два цені, мы за ёй блукалі,
І халоднымі, чужымі раптам
Сталі поціскі сяброўскіх рук.

Толькі з сэрцам маладым дзявочым
Што паробіш? Сэрца пакахала
Трэцяга.
Тут быў меліяратар,
З ім на Ўсход паехала яна...

...Мы сядзелі ночы над сталамі
Ў цеснай канцылярыі праўлення:
Планы абмяркоўвалі і часам
Горача спрачаліся.
Тады,
        дакурыўшы толькі што цыгарку,
Зараз новую дзядзькі круцілі,
Кожны браў разоў па дзесяць слова,
Піў ваду і зноў курыў.
Было
        шмат турбот. Брыгады канчаткова
Замацоўваліся. Гаспадыняй дбайнай
Без спазнення па сваіх маршрутах
Паспявала ранняя вясна...

...Я гляджу на хлопца, і без слова
Мы адзін другога разумеем.
Мы той час гарачы ўспамінаем,
Як сябры старыя.

І яшчэ.
Як матыў любімай даўняй песні,
Мы дзяўчыну нашу ўспамінаем,
І прыемным нейкім, ціхім сумам,
Быццам хмелем лёгкім першых красак,
Ахінаюць успаміны нас.

А пасля на беразе высокім
Мы аб справах сённяшніх гаворым,
Заўтра сход збярэцца камсамольскі
Разам з моладдзю ўсёй вёскі —
заўтра МЮД.

Паціскаем моцна рукі.
Сцежкай
я праходжу ля млыноў знаёмых.
Над Рачэнню поўны жоўты месяц,
Што карась у завадзях, стаіць...

*1936 г.*

## РАГАЧОЎСКІ СШЫТАК

### I

Засталося пакланіцца клёнам
Ды ускінуць куртку на плячо.
Не сумуй па госцю,
Мой зялёны,
Мой птушыны горад Рагачоў.

Кіраўск. Стынь. Карэльскія бярозы.
Кліча новых сцежак хараство.

Што паробіш з неспакойным лёсам,
Салаўіным цяжкім рамяством?!

Ціхім ранкам пад павевам лёгкім
Над вадою шэпчуцца сады.
Ціхім ранкам у прасцяг далёкі
Я прайду, задумны й малады.

Між сланечнікаў праз палісаднік
Пракладу шырокі росны след,
Лодачнік,
Заядлы галубятнік
І вясёлы на зямлі паэт.

І аднойчы вечарам лагодным
У гасцях у дальніх землякоў
Раскажу я з гонарам
пра родны
Свой зялёны горад Рагачоў.

II

Помню рань: па росах,
па пялёстках
Бег я з вудкай,
А з чарвямі ўслед
Басанож па цёплых лужах плёскаў
Сябра мой і будучы паэт.

Толькі раптам бачым: на дарозе
Нам насустрач Козыраў Раман —
Мамкіных усіх сынкоў пагроза,
Хлапчукоў фабрычных атаман.

— Значыць, што ж,
вы зноў па рыбку, цацы?..
Чулі, мажуць пяткі белякі...

Заўтра прыйдуць нашы —
ўлада працы!
Пастунай, як я, ў бальшавікі!

І на зайздрасць памахаў наганам...
Мы прасілі ў рукі патрымаць;
Замест рыбы мы пайшлі з Раманам
На вакзале зброю даставаць.

А назаўтра ўсю братву будзілі —
Беглі сустракаць бальшавікоў,
Потных коней, шчасныя, вадзілі,
Елі кашу з медных кацялкоў.

III

Так ад кашы гэтай незабыўнай
Я лічу свой першы сталы крок.
Маладосць,
Ты праз вятры і ліўні
Без прыгод, пазычаных з кніжок,

Скрозь ішла
І ў сцежках не прыстала,
І з мальцоў віхрастых і дзяўчат
Мы прыйшлі,
сябры мае,
у сталасць
З цеплынёй і шчырасцю ў вачах.

Нам цяпер ўсё болей паслухмяны
Хвалі самай бурнае ракі,
Самалёты, малаты і краны,
Зброя і гарачыя радкі.

Пад прывольным рагачоўскім небам
На дняпроўскім беразе крутым

Мы яшчэ збяромся калі-небудзь —
Прыгадаем песеньку аб тым,

Як шумелі маладыя клёны,
Як між хмарак ціхі месяц плыў,
Як на нашай вуліцы зялёнай
Сам Сямён Міхайлавіч Будзённы
У Дняпры каня свайго паіў.

IV

Мы нядарма, шчуплыя, хадзілі
З карабінамі цяжкімі ў бой —
Здабывалі слаўную Радзіму
Маладой
Гарачаю крывёй.

Не атруцяць золкія туманы
Над Дняпром зялёную траву.
Над магілай ціхай Цымермана
Строі ліп трымаюць каравул.

І плывуць у сонца пераліvах
Самалёты
Між абрыўкаў хмар,
І звініць дзіцячы смех шчаслівы,
Пра які так марыў камісар.

І на золку, пеўнямі узняты,
Архітэктар едзе на раён —
Месца для будынкаў камбіната
Як хутчэй агледзець хоча ён.

Росна. Цёткі на высокіх градках
Выбіраюць свежыя гуркі,
Покуль цэглу
І цэмент у кадках
На гару імчаць грузавікі.

